# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў кастрычніку 1979 года • № 24(753) • 24 чэрвеня 1994 г. • Цана 25 руб.

● ФОТАРЭПАРТАЖ

## І САБРАЛІСЯ ЯНЫ РАЗАМ — НАШЫ ВЕТЭРАНЫ, НАШЫ ГЕРОІ



14 чэрвеня ў канферэнцзале прэзідыума прайшоў урачысты сход ветэранаў акадэміі, прысвечаны 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.





...Іх сустракалі як сапраўдных герояў: з кветкамі, віншаваннямі, словамі ўдзячнасці за ўсё тое, што яны для нас зрабілі. Кожнаму ветэрану ўручылі канверт з грашыма (якая-ніякая, а дапамога ў наш складаны час), святочны нумар нашай газеты.

Многія прыйшлі загадзя, каб яшчэ да пачатку сходу сустрэцца з таварышамі, пагаварыць, успомніць мінулае. І было прыемна бачыць, з якім добрым настроем ішлі ветэраны на гэта ўрачыстае мерапрыемства.

Адкрыў сход прэзідэнт Акадэміі навук Л. М. Сушчэня. Ён павіншаваў усіх прысутных з надыходзячым святам — 50-годдзем вызвалення нашай краіны ад гітлераўскага нашэсця і сказаў многа добрых слоў у адрас нашых ветэранаў, нашых герояў. Хвілінай маўчання ўдзельнікі сходу ўшанавалі памяць тых, хто загінуў на полі бітвы, не дачакаўшыся светлых дзён перамогі, хто не дажыў да нашых сённяшніх дзён. На заканчэнне сваёй уступнай прамовы Леанід Міхайлавіч ад імя прэзідыума ўручыў Ганаровую грамату старшыні ветэранскай арганізацыі АНБ А. П. Прышывалку.









Наступным выступіў старшыня рэспубліканскага Савета ветэранаў А. Я. Андрэеў. Сваю прамову ён пачаў з таго няпростага становішча, у якім апынуліся зараз ветэраны, і выказаў шэраг крытычных заўваг у бок урада, які недастаткова ўвагі надае пажылым людзям. Затым Анатоль Яўгенавіч спыніўся на бягучым палітычным моманце.

Доктар гістарычных навук А. А. Філімонаў гаварыў пра подзвіг усяго савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, пра цяжкі шлях да перамогі. Таксама Аляксандр Андрэевіч выказаўся наконт тых падзей, што працякаюць зараз у нашым грамадстве.

Апошнім выступіў кандыдат гістарычных навук М. У. Токараў, які расказаў пра ўдзел вучоных у ВАВ. Пасля заканчэння афіцыйнай часткі для ветэранаў быў наладжаны святочны канцэрт.

А. ЮРЫН.

НА ЗДЫМКАХ: у час урачыстага сходу.

Фота Ігара САЧАНКІ.



## У КРАІНАХ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

### КАЗАХСТАН

Нацыянальная Акадэмія навук Казахстана, якая прыняла свой першы статут, будзе адстайваць «прынцыпы самакіравання», замацаваныя ў гэтым дакуменце. У статуце абумоўлены ўзаемаадносіны з нацыянальнымі навуковымі цэнтрамі. Цяпер зацвярджэнне праграм фундаментальных даследаванняў, назначэнне іх кіраўнікоў, фінансаванне інстытутаў НАН будуць праходзіць толькі па прапанове прэзідыума альбо яго экспертнага заключэння.

На званне акадэміка можа прэтэндаваць саіскальнік не старэй 65 гадоў, члена-карэспандэнта — не старэй 60.

* * *

*У 1994 годзе аб'ём фінансавання фундаментальнай навукі застанецца на ўзроўні мінулага года, захаваюцца і асноўныя навуковыя накірункі. Так вырашыў Рэспубліканскі савет па фундаментальных даследаваннях. Цяпер экспертам засталося правесці «інвентарызацыю» навуковых работ, праводзімых на сродкі з бюджэту. Пасля гэтага грошы будуць выдзяляцца толькі на тыя праекты, якія сапраўды носяць фундаментальны характар і адпавядаюць сусветнаму (у крайнім выпадку, былому саюзнаму) узроўню.*

### УЗБЕКІСТАН

**Дзяржкамітэт па навуцы і тэхніцы Узбекістана правёў выставу «Інавацыя-94», на якой былі прадстаўлены навуковыя распрацоўкі, дзе павінны выкарыстоўвацца ў першую чаргу «імпартазамяняючыя» матэрыялы і вырабы.**

**У «Інавацыі» прымала ўдзел каля 70 калектываў НДУ Акадэміі навук, вну, КБ буйнейшых прадпрыемстваў. Усім ім на конкурснай аснове былі выдзелены сродкі для правядзення неабходных распрацовак.**

### УКРАІНА

**Указам прэзідэнта рэспублікі для акадэмікаў установлены штомесячны аклад у 15 мінімальных зарплат (900 тысяч карбованцаў), для членкораў — 10 мінімальных зарплат. Заснавана 200 штомесячных стыпендый для таленавітых маладых вучоных у памеры 15 мінімальных зарплат кожная. Аднак пакуль што дзяржаўная падтрымка зводзілася да перакладвання невялікіх бюджэтных сродкаў з адной кішэні ў другую. Ёсць сумненні і ў тым, што гэты ўказ запрацуе.**

**Гэтым указам таксама прадугледжана паслабленне налогавага рэжыму.**

# Усё нармальна. Але толькі... для 8 працэнтаў

**Думкі асоб, адказных за навуковую палітыку, аб кадравым і фінансавым забеспячэнні навукі абагульнены ў «Канцэпцыі пераўтварэння навукова-тэхнічнай сферы», праект якой быў распрацаваны Навукова-даследчым эканамічным інстытутам Дзяржэканамплана пры ўдзеле АНБ, Міністэрства адукацыі і Дзяржкамправа. Гэта канцэпцыя ацэньвае палажэнне ў навуковай, тэхнічнай і інавацыйнай сферах рэспублікі як крытычнае. Нарастанне негатыўных тэндэнцый адзначаецца ў страце кадраў, спыненні прытоку моладзі, зніжэнні ўзроўню работ з-за адсутнасці сучаснага абсталявання, прылад, матэрыялаў, у інфармацыйнай ізаляцыі. Але зрабіць нешта радыкальнае па пераадоленню крызісу пакуль не ўдаецца з-за слабасці ўсіх галін улады і нясталасці рынačных адносін у навукова-тэхнічнай сферы.**

**Навуковая супольнасць з вялікай трывогай адносіцца да рэзкага пагаршэння кадравага, фінансавага і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння даследаванняў. Дынаміка ацэнак адлюстравана ў выніках сацыялагічнага маніторынгу, які праводзіцца ў АНБ з 1992 г. Адказы на пытанне: «Як вы ацэньваеце сітуацыю з навуковымі кадрамі ў вашым інстытуце?» размеркаваліся ў цэлым па выбарках наступным чынам (у працэнтах):**

| | май 1992 г. | май 1993 г. | люты 1994 г. |
|---|---|---|---|
| 1. Становішча нармальнае | 27 | 14 | 8 |
| 2. Інтэлектуальнае ядро захавалася, але становішча з кожным днём пагаршаецца | 46 | 74 | 79 |
| 3. Ужо страчаны найбольш прадукцыйныя кадры | 18 | 4 | 10 |
| 4. Не адважыліся адказаць | 9 | 8 | 3 |
| Усяго апытана, чалавек: | 378 | 323 | 350 |

**Як бачым, за два апошнія гады доля супрацоўнікаў АНБ, якія лічаць становішча з навуковымі кадрамі нармальным, скарацілася ў тры разы, а доля трывожных ацэнак узнялася з 46 да 79. Найбольш цяжкае становішча з кадрамі ў інстытутах фізіка-тэхнічнага профілю, на якіх адмоўна адбілася канверсія і разрыў гаспадарчых сувязей паміж рэспублікамі былога СССР. Па даных апытання, да лютага 1994 г. з-за змяншэння аб'ёмаў дзяржбюджэтнага фінансавання 65 працэнтаў апытаных супрацоўнікаў гэтых інстытутаў баіцца страціць працу, у той час як сярод грамадазнаўцаў гэты паказчык складае 32 працэнты.**

**Для аналізу адносін навуковых супрацоўнікаў да фінансавых змен у нашых анкетах змяшчалася пытанне: «Як вы ацэньваеце існуючы механізм размеркавання дзяржбюджэтных сродкаў у АНБ?» Адказы ў цэлым па выбарцы ў лютым 1994 г. размеркаваліся так: пераважае мэтавы прынцып выдзялення сродкаў для выканання канкрэтных праграм — 14 працэнтаў; ажыццяўляецца па старой схеме—58 працэнтаў. Над «старой схемай» разумеецца механізм без конкурснай асновы размеркавання, калі грошы выдзяляюцца не на пэўную праграму даследаванняў, а на падтрымку навуковых установаў. Мэтавы прынцып больш за ўсё пашыраны ў фізічных (19 працэнтаў адказаў) і тэхнічных (21 працэнт) навуках. Сярод хімікаў і біёлагаў 67—69 працэнтаў рэспандэнтаў лічаць, што фінансаванне ідзе па старой схеме.**

**Для савецкай навукі з гарантаваным дзяржбюджэтным фінансаваннем была традыцыйнай некаторая адчужанасць навуковых супрацоўнікаў ад праблем «здабычы грошай». Таму цяпер многія з іх слаба арыентуюцца ў фінансавых пытаннях, што адлюстравалася ў вялікай долі (20 працэнтаў) тых, хто не адважыўся адказаць. Гэта характэрна для ўсіх галін ведаў, але асабліва для грамадскіх навук (31 працэнт).**

**Дэфіцыт бюджэту і рост эксплуатацыйных расходаў прывёў да таго, што інстытуты вымушаны практычна адмовіцца ад абнаўлення эксперыментальнай базы. Гэта хутка пагаршае ўмовы прафесійнай навуковай дзейнасці. Пры сацыялагічным маніторынгу ў АНБ рэспандэнтам ставілася пытанне: «Як вы ацэньваеце ўзровень забяспечанасці вашага інстытута фінансавымі і матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі?» Адказы размеркаваліся наступным чынам (працэнты):**

| | май 1993 г. | люты 1994 г. |
|---|---|---|
| 1. Добры (дазваляе ажыццяўляць навукова-даследчыя і доследна-канструкцыйныя работы (НДДКР) на сусветным узроўні) | 0,3 | 0,0 |
| 2. Задавальняючы (дазваляе падтрымліваць НДДКР на даволі высокім узроўні) | 15,0 | 4,5 |
| 3. Нізкі (дазваляе толькі захоўваць навукова-тэхнічны патэнцыял інстытута) | 70 | 61,0 |
| 4. Нармальная творчая дзейнасць практычна немагчыма | 13 | 34,5 |
| 5. Не магу адказаць | 2 | 0,0 |

**Найбольшую долю песімістычных ацэнак у лютым 1994 г. выказалі работнікі фізіка-тэхнічных і хімічных інстытутаў: 41 працэнт з іх лічыць, што ў сённяшніх умовах творчая дзейнасць практычна немагчыма. Найменшая доля (17 працэнтаў) адмоўных ацэнак характэрна для грамадазнаўцаў, што можа тлумачыцца іх слабай залежнасцю ад эксперыментальнай базы.**

**Даныя праведзеных апытанняў даюць магчымасць, на наш погляд, сцвярджаць, што, па-першае, ацэнкі ў навуцы змяняюцца вельмі хутка, а, па-другое, сацыялагічны маніторынг можа стаць эфектыўным інструментам аналізу трансфармацыйных працэсаў у навуцы.**

**Генадзь НЕСВЕТАЙЛАЎ,**
**доктар сацыялагічных навук, загадчык сектара сацыялогіі навукі Інстытута сацыялогіі АНБ.**

# ДАВЫД ГОЛУБ — СОРАСАЎСКІ ЛАЎРЭАТ

**Як мы паведамлялі ўжо (гл. «Навіны», № 23), першымі ганаровымі прафесарамі Джорджа Сораса ў Беларусі сталі беларускія акадэмікі — нейраэмбрыёлаг Д. М. ГОЛУБ і фізік-тэарэтык Ф. І. ФЁДАРАЎ. Сёння наша ўшанаванне — Давыду Моўшавічу Голубу, так бы мовіць, лаўрэату Сорасаўскай прэміі.**

Нарадзіўся ён у 1901 г. у мястэчку Чэрвень. З Беларуссю звязана ўсё яго жыццё, навуковая і педагагічная дзейнасць. З 1931 г. ён працаваў у Інстытуце эксперыментальнай медыцыны, потым — у Інстытуце фізіялогіі, дзе і зараз узначальвае даследчую групу па функцыянальнай нейрамарфалогіі, з'яўляючыся адначасова саветнікам пры дырэкцыі. Амаль 50 гадоў ён аддаў педагагічнай дзейнасці, з якіх больш за 40 — «на пасту» загадчыка кафедры анатоміі (спачатку на медыцынскім факультэце БДУ, потым у медыцынскім інстытуце. У свеце вядома нейрабіялагічная «школа Голуба», у якой больш за 50 кандыдатаў і 10 дактароў навук.

Найбольш значны вынік яго дзейнасці, атрыманы пры вывучэнні эмбрыягенезу вегетатыўнай нервовай сістэмы,— гэта фундаментальнае ўяўленне пра існаванне ў арганізме асноўных і дадатковых (абходных) сувязей унутраных органаў з цэнтральнай нервовай сістэмай. Яно аказалася вельмі істотным для нейрапаталогіі і нейрахірургіі.

Акадэмік Д. М. Голуб з супрацоўнікамі стварыў вялікі цыкл прац па ўзнаўленню нервовых сувязей унутраных органаў у выпадку поўнай або частковай страты імі нармальнай інервацыі. Распрацаваны канкрэтныя прыёмы фарміравання крыніц і шляхоў дадатковай (штучнай) неўратызацыі. У апошнія гады ім сфармуляваны асноўныя палажэнні новага напрамку ў медыцынскай біялогіі, атрымаўшага назву эмбрыябіёнікі. У аснове яе — выкарыстанне законаў нейрабіялогіі ў якасці прататыпаў для ўтварэння ў дарослым арганізме новых нервовых структур.

Спіс навуковых прац Д. М. Голуба, акадэміка АНБ, заслужанага дзеяча навукі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, налічвае больш за 300 назваў, у тым ліку 9 манаграфій. Ён з'яўляецца ганаровым старшынёй Беларускага і ганаровым членам Расійскага, Балгарскага і Чэха-Славацкага таварыстваў анатамаў, гісталагаў і эмбрыёлагаў.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

# У Рыва дэль Гарда цяпер ведаюць Беларусь. І любяць

**Паездка на міжнародны конкурс у Італію зрывалася. Пошукі спонсараў доўгі час не прыносілі станоўчых вынікаў — цяжка зараз усім...**

**Харавая капела Акадэміі навук Беларусі шмат паездзіла па конкурсах, фестывалях. Яе добра ведаюць у Малдове і Латвіі, Літве і Эстоніі, Польшчы і Германіі. Арганізацыйныя і фінансавыя праблемы раней калі і ўзнікалі, то хутка і без асаблівых праблем вырашаліся. Аднак у гэтым годзе, атрымаўшы запрашэнне на III Міжнародны харавы конкурс у Рыва дэль Гарда, мы сустрэліся з вельмі сур'ёзнымі праблемамі, найперш — фінансавымі.**

**Вучоныя акадэміі параілі: звярніцеся з праектам у «Фонд Сораса — Беларусь», дзейнасць якога накіравана на падтрымку творчага і навуковага патэнцыялу рэспублікі. Пасля ўсебаковага аналізу нашага праекта экспертамі Фонд прыняў рашэнне фінансаваць удзел акадэмічнай капелы ў такім прадстаўнічым харавым форуме...**

**Аўтобусны маршрут пралягаў праз многія еўрапейскія краіны. Польшча, Славакія, Венгрыя, Славенія. Толькі на трэція суткі мы былі ў італьянскіх Альпах, у невялікім гарадку Рыва дэль Гарда. Для ўдзелу ў конкурсе сюды прыехалі звыш 100 калектываў з 22 краін свету.**

**Урачыстае адкрыццё фестывалю. Творчыя калектывы паказалі кароткія імправізаваныя выступленні. Гэта была, так бы мовіць, своеасаблівая прэзентацыя ўдзельнікаў конкурсу. У наступныя дні іх чакалі выступленні ўжо па конкурснай праграме. Наша капела, дарэчы, выступала ў адной з самых складаных і цікавых катэгорый — Musica Sacra. У лік абавязковых твораў былі ўключаны дзве часткі месы італьянскага кампазітара эпохі адраджэння Дж. Палестрыны (1994 г. аб'яўлены ЮНЭСКА годам Палестрыны). Беларуская капела ў сваёй конкурснай праграме выканала таксама матэт італьянскага кампазітара Лоцці і арыгінальныя духоўныя сачыненні традыцыйнай і сучаснай беларускай музыкі**

**Аўтарытэтнае журы высока ацаніла наша выступленне: харавая капела Акадэміі навук (кіраўнік Т. Слабодчыкава) была ўзнагароджана сярэбраным дыпломам конкурсу. Члены журы адзначылі своеасаблівасць мастацкай інтэрпрэтацыі, вернасць стылю і музычнай формы, узвышанасць і натхнёнасць выканаўцаў. За час знаходжання ў Італіі наш хор паспеў выступіць у саборы Рыва дэль Гарда з вялікім канцэртам духоўнай музыкі, які быў вельмі цёпла сустрэты прыхаджанамі і мясцовым духавенствам. У час нефармальных зносін з іншымі музыкантамі (таксама аматарскімі калектывамі) мы ўстанавілі сяброўскія кантакты з нашымі калегамі з Венгрыі, Германіі, Нарвегіі, Аўстрыі, Італіі, Славеніі, што ў будучым дазволіць абменьвацца творчымі паездкамі, часцей удзельнічаць у міжнародных фестывалях. Былі наладжаны плённыя сувязі з нацыянальнымі асацыяцыямі харавой музыкі Італіі і Германіі. Атрыманая інфармацыя дазволіць арганізаваць у Мінску Асацыяцыю аматарскіх харавых калектываў.**

**Удзел акадэмічнай харавой капелы ў адным з найпрэстыжнейшых еўрапейскіх харавых конкурсаў трэба лічыць значнай падзеяй у культурным жыцці нашай краіны. Упершыню музыканты-аматары атрымалі магчымасць паўдзельнічаць у кантактах музычных культур Усхода і Захада, адчуць складанасць і разнастайнасць мастацкіх тэндэнцый у музычнай культуры.**

**На заканчэнне хочацца сказаць добрыя словы нашаму спонсару — Фонду Сораса. Дзякуючы яму, капела Акадэміі навук здолела не толькі выступіць на конкурсе, але і зрабіць сабе імя ў свеце, набыць вядомасць як калектыў высокай музычнай культуры. Гэты вынік таксама немалаважны як для нашага калектыву, так і для нашай маладой незалежнай дзяржавы.**

**А. КУРСКОЎ,**
**Л. КАЗЫРА.**

*ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РАЗВАЖАННЯ*

# ЯК БЫЦЬ, КАЛІ ЎЛАСНАСЦЬ — ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЯ?

**1. ЭВАЛЮЦЫЯ КАНЦЭПЦЫІ ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЙ УЛАСНАСЦІ**

Ідэя інтэлектуальнай уласнасці (ІУ) у першым прыбліжэнні ахоплівае два прававых інстытуты, вядомыя ў найбольш развітых краінах ужо на працягу стагоддзяў: патэнтнае заканадаўства і заканадаўства па аўтарскаму праву. Да канца мінулага стагоддзя гэтыя інстытуты аформіліся ў міжнародна прызнаныя канвенцыі: Парыжскую канвенцыю аб ахове прамысловай уласнасці, прынятую 20 сакавіка 1883 г., і Бернскую канвенцыю аб ахове літаратурных і мастацкіх твораў, прынятую 9 верасня 1886 г.

Да сярэдзіны XX стагоддзя іх успрымалі як незалежныя. Пазней яны былі аб'яднаны ідэяй ІУ.

Змястоўна ІУ проціластаўляецца традыцыйнай уласнасці на матэрыяльныя аб'екты. Уладальнік правоў на ІУ абмяжоўвае дзеянні, звязаныя з выкарыстаннем пэўнага выніку творчай дзейнасці. Правы матэрыяльнай уласнасці распаўсюджваюцца толькі на носьбіт і форму вырашэння адпаведнага выніку творчай дзейнасці. Па сутнасці, гэта правы на экземпляр.

Напрыклад, для літаратурнага твора ці камп'ютэрнай праграмы набыццё экземпляра не азначае набыццё права ІУ на яе. У прыватнасці, той, хто купіў экземпляр (кнігі, праграмы), не мае права камерцыйна распаўсюджваць яе новыя копіі ці ўносіць змяненні без дазволу ўладальніка праводу ІУ, звязанай з дадзеным аб'ектам.

Арганізацыйна два асноўныя напрамкі (вынаходніцкае заканадаўства і аўтарскае права) на міжнародным узроўні аб'ядналіся ў 1970 г. у Сусветную арганізацыю інтэлектуальнай уласнасці. Гэта адна са спецыялізаваных структур ААН, у якой больш за 1000 членаў, у тым ліку і Беларусь.

Канцэпцыя ІУ не з'яўляецца бясспрэчна адназначнай. У пэўным сэнсе гэта тэарэтычная юрыдычная абстракцыя, мэтазгоднасць выкарыстання якой да нядаўняга часу не была яўнай; фактычна яна даказана практычна. Краіны, якія ўвялі інстытут ІУ, дамагліся істотнага прагрэсу ў сваім заканадаўстве. У некаторых краінах (напрыклад, у Іспаніі) новыя законы прама ўключалі тэрмін «ІУ». Аднак, напрыклад, у ЗША, дзе ідэя ІУ вельмі папулярная, адзінага заканадаўства ў гэтай сферы няма, ёсць толькі асобныя яго часткі — патэнтнае заканадаўства і аўтарскае права.

Узнікшы з гэтых дзвюх галін, ідэя ІУ аказалася шырэйшая за іх. Да ІУ зараз адносяць «ноу-хау», камерцыйныя сакрэты, а таксама аб'екты, што ахоўваюцца спецыяльным заканадаўствам. Да апошняга адносіцца прававое рэгуляванне выкарыстання вынікаў розных відаў творчай працы.

**2. ЗМЯНЕННЕ АДНОСІН ДА ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЙ УЛАСНАСЦІ**

У заканадаўстве СССР да 80-х гадоў ІУ фактычна ігнаравалася. Існаваўшыя заканадаўчыя палажэнні аб аўтарскім і вынаходніцкім правах былі прадстаўлены ў самай агульнай форме ў складзе Грамадзянскага Кодэксу. А фактычнае рэгуляванне адносін у гэтай сферы ажыццяўлялася шэрагам падзаконных актаў.

З іншага боку, для большасці новых незалежных дзяржаў, узнікшых на тэрыторыі былога СССР, характэрна тэндэнцыя запазычвання ў сферы ІУ гатовых інстытутаў, апрабіраваных у іншых краінах. Варта адзначыць, што прававыя інстытуты ў развітых краінах вельмі разнастайныя і разгалінаваныя. У адным з дакументаў Кангрэса ЗША адзначалася, што ў сувязі з прававой ахоўвай ІУ паўстаюць такія пытанні, як «што ахоўваецца», «у якім аб'ёме», «як доўга», «ад чаго», «ад каго». Прычым на кожнае з гэтых пытанняў патэнцыяльна заўсёды ёсць мноства варыянтаў адказаў.

Тое, што гэтыя пытанні няпростыя, паказвае, напрыклад, той факт, што нават у ЗША, дзе прававая ахова праграм для ЭВМ канчаткова была замацавана яшчэ ў 1990 г., да сённяшняга часу не вызначаны поўнасцю аб'ём таго, што падпадае пад ахову, хаця нявызначанасць застаецца ў даволі вузкім дыяпазоне.

Такім чынам, пры стварэнні нацыянальнага заканадаўства па ІУ гаворка павінна ісці не проста аб увядзенні прававой аховы, а аб увядзенні яе ў найбольш разумнай, эфектыўнай, мэтазгоднай форме, што патрабуе мэтавых навуковых даследаванняў і прафесійных абмеркаванняў, — чаго зараз пры падрыхтоўцы адпаведнага заканадаўства вельмі не хапае.

**3. ПРАВАВАЯ АХОВА ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЙ УЛАСНАСЦІ**

Прававая ахова ІУ стварае аснову для фарміравання рыначных адносін у сферы распаўсюджвання новаўвядзенняў. Да нядаўняга часу ў Рэспубліцы Беларусь фактычна адсутнічала прававая ахова ІУ, у выніку чаго з развіццём рыначных адносін у сферы матэрыяльнай вытворчасці ўзрастала небяспека неэквівалентнага абмену паміж навукова-даследчымі арганізацыямі і прамысловымі прадпрыемствамі, пашырэння практыкі несанкцыянаванага выкарыстання навукова-тэхнічнай інфармацыі і прамысловага шпіянажу, што мела вынікам эрозію інтэлектуальных рэсурсаў рэспублікі.

У той жа час строгая ахова ІУ на карысць навукова-тэхнічных лідэраў, якія атрымліваюць прыбытак з манапольнага выкарыстання правоў на выкарыстанне навукова-тэхнічных новаўвядзенняў. Пакуль беларускія прадпрыемствы недастаткова канкурэнтаздольныя, роўнасць умоў забяспечвае перавагу замежным фірмам з уроўнам для айчынных. Для падтрымкі апошніх і забеспячэння ўмоў іх будучага развіцця неабходны абмежаваны пратэкцыянізм, у тым ліку і ў прававых нормах аховы ІУ.

У 1993 г. у Рэспубліцы Беларусь прыняты Закон аб патэнтах на вынаходкі, Закон аб таварных знаках і знаках абслугоўвання, Закон аб патэнтах на прамысловыя ўзоры. Падрыхтаваны праекты законаў «Аб патэнтах на мадэлі», «Аб прававой ахове селекцыйных дасягненняў», «Аб аўтарскім праве і сумежных правах». Такім чынам, амаль кожны аб'ект інтэлектуальнай дзейнасці будзе мець «свой» інстытут права. Многія спецыялісты вітаюць менавіта такі падыход, бо пры гэтым дасягаецца чысціня нарматыўных прадпісанняў, што рэгулююць грамадскія адносіны, з улікам якасцей, уласцівых толькі дадзенаму аб'екту.

З другога боку, многім спецыялістам здаецца зусім натуральным знайсці тое агульнае, якое было б неабходным і дастатковым для аб'яднання ўсіх не толькі ўсталяваных інстытутаў па прававай ахове ІУ, але і тых, што пачынаюць сваё станаўленне. Прыхільнікі падыходу да пошуку агульнай прыкметы, якая б аб'ядноўвала ўсе наяўныя і магчымыя інстытуты права ў гэтай сферы, звычайна бачаць яго ў прыняцці дзяржаўнага закону «Аб інтэлектуальнай уласнасці», лічачы, што гэта адпавядала б зближэнню заканадаўстваў розных краін свету.

Для вырашэння адзначанага процістаяння варта было б прыцягнуць увагу вучоных і практыкаў да даследавання названай праблемы (магчыма, пад эгідай Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці). Нельга прызнаць нармальным гэта палажэнне яшчэ і таму, што гаворка ідзе аб вельмі важнай сферы грамадскага жыцця, якая самым непасрэдным чынам уплывае на эфектыўнасць вытворчасці матэрыяльных і духоўных даброт.

**Антон СЛАНІМСКІ,**
**кандыдат эканамічных навук.**

---

*По старонках газеты «Навука. Садружнасць. Прагрэс» (г. Дубна)*

## «Эканамісту» з Лондана цікава ўсё

**Цікавасць да эксперыментаў па сінтэзу новых ядраў з Z-98-106 на газанапаўняльным сепаратары ЛЯР праявіў уплывовы англійскі штотыднёвік «Эканаміст» (выдаецца з 1843 года), накіраваўшы ў Дубну з Лондана карэспандэнта аддзела навукі і тэхналогій Марка Робертса, якому яшчэ няма і 30,— выпускніка Оксфарда, які вывучаў у яго сценах фізіку і філасофію, ужо мае за плячыма вопыт даследчыцкай работы ў Масачусецкім тэхналагічным універсітэце (ЗША). Аднак жаданне пашырыць свае веды аб навуцы і дзяліцца імі з чытачамі «Эканаміста», які выдаецца паўмільённым тыражом і распаўсюджваецца ў многіх краінах свету, падштурхнула яго заняцца журналістыкай. На Марка аказалі вялікі ўплыў даследаванні, якія вядуцца ў ЛЯР, сустрэчы з людзьмі з Расіі, якая дагэтуль была вядома яму толькі па кнігах.**

---

## «АТАМ»— НОВЫ НАВУКОВА-ПАПУЛЯРНЫ ЧАСОПІС ДЛЯ МОЛАДЗІ

**Па ініцыятыве вучоных Расійскага Федэральнага Ядзернага Цэнтра з 1994 года плануецца ў рамках Міністэрства РФ па атамнай энергіі пачаць выпуск новага навукова-папулярнага часопіса «Атам». Галоўны рэдактар — акадэмік Акадэміі прыродазнаўчых навук РФ С. А. Новікаў, яго намеснік — Н. А. Волкава. Ідэю выпуска такога часопіса падтрымалі і сталі першымі аўтарамі вядучыя вучоныя з розных прадпрыемстваў МАЭ.**

**У часопісе плануюцца наступныя раздзелы: гісторыя развіцця і станаўлення атамнай навукі, персаналія, папулярнае выкладанне цікавых фізічных з'яў з розных галін навукі і тэхнікі, новы погляд на некаторыя праблемы фундаментальных даследаванняў, экалагічныя праблемы, бяспечнасць атамных станцый і альтэрнатыўныя крыніцы энергіі, пытанні канверсіі, рэклама прадукцыі і тавараў.**

**Выданне будзе добра ілюстравана і выходзіць на рускай, а ў далейшым і на англійскай мовах з мэтай распаўсюджвання яго не толькі на ўнутраным, але і знешнім рынку. Перыядычнасць часопіса — 4 нумары ў год тыражом у 1000 экземпляраў.**

**Запрашаем вас да супрацоўніцтва з нашым часопісам. Дасылайце свае артыкулы ў наш часопіс, спрабуйце свае сілы ў папулярызацыі цікавых навуковых даследаванняў і ідэй. Гэта можа быць і навукова-папулярны артыкул, і фантастыка, і ўспаміны аб калегах і кур'ёзных выпадках, і казкі, і рэклама, і аб'явы, і проста лісты чытачоў з ідэямі і пажаданнямі. Форма выкладання матэрыяла можа быць выбрана любая — і проза, і вершы, і фальклор, галоўнае — цікава.**

**С. НОВІКАЎ,**
**галоўны рэдактар навукова-папулярнага часопіса «Атам», акадэмік РА.**

**607200, г. Арзамас-16, Ніжнегародскай вобл., АПІНТУ Кантактны тэлефон (831-30) — 114-70.**

---

# Для навуковых суполак былога Саюза

**А апошні час у рэспубліканскім друку ў сувязі з «Фондам Сораса — Беларусь» усё часцей упамінаецца Міжнародны навуковы фонд (МНФ). Што гэта за фонд і чым ён займаецца ў Беларусі — аб гэтым у заметцы, што перад вамі. Яе падрыхтавала кандыдат біялагічных навук Лідзія ПРАКУЛЕВІЧ, дырэктар праграм МНФ у Беларусі.**

◆◆◆

МНФ — прыватная дабрачынная арганізацыя, створаная на сродкі амерыканскага бізнесмена Джорджа Сораса. У сферу інтарэсаў фонду ўваходзіць падтрымка фундаментальных навук у рэспубліках былога СССР. Сваю дзейнасць у Беларусі МНФ пачаў у сакавіку 1993 г. з Праграмы тэрміновай дапамогі вучоным былога Саюза.

Пад дзеянне праграмы падпадалі тыя навукоўцы, што мелі як мінімум тры артыкулы ў галіне фундаментальных навук, надрукаваныя ў вядучых айчынных ці замежных часопісах, пачынаючы з 1988 г. Улічваліся толькі тры публікацыі, маючыя найбольш рэйтынг. Узроставых абмежаванняў для ўдзелу ў конкурсе не было.

Заяўкі на разавы грант (500 долараў ЗША) аналізаваліся па фармальнаму крытэрыю, заснаванаму на імпакт-фактары (індэксе цытуемасці) часопісаў, у якіх работы былі надрукаваны. Значэнні імпакт-фактараў часопісаў браліся са статыстычных даных, падрыхтаваных Інстытутам навуковай інфармацыі ў Філадэльфіі. У гэты спіс папалі 110 часопісаў былога СССР з імпакт-фактарам 0,05 і вышэй. Ад Беларусі ў гэтай праграме прынялі ўдзел 800 вучоных, 707 з іх атрымалі гранты на агульную суму 353,5 тысячы долараў. У адпаведнасці з галоўнай ідэяй праграмы, фінансавая дапамога прызначалася асобным вучоным, каб на нейкі час забяспечыць ім адносна нармальныя ўмовы для работы.

Большая частка вучоных, якія атрымалі гранты МНФ у Беларусі, працуе ў АНБ. З акадэмічных вучоных найбольш перамоўцаў у конкурсе было з Інстытута фізікі.

У рамках тэрміновай праграмы МНФ («1,5-фаза») вучоным выдзяляюцца дадатковыя гранты — тым з 5 працэнтаў удзельнікаў конкурсу, рэйтынг якіх быў найбольш высокі. Яны атрымаюць дадаткова па 1000 долараў з правам размеркавання атрыманай сумы сярод сваіх супрацоўнікаў. Усяго па «1,5-фазе» было вылучана 17900 долараў, з улікам заахвочвальных прэмій маладым вучоным і ўстановам, у якіх працуюць ці працавалі пераможцы конкурсу.

У чэрвені 1993 г. МНФ аб'явіў аб пачатку дзеяння Праграмы доўгатэрміновых грантаў, разлічанай на 2 гады. На яе рэалізацыю вылучана 50—55 млн. долараў. Яна прадугледжвае фінансавую падтрымку навукоўцаў, закупку абсталявання, расходных матэрыялаў, фінансаванне навуковых камандзіровак, развіццё тэлекамунікацый і іншае.

У першым туры ад Беларусі прыняло ўдзел каля 260 груп вучоных па розных напрамках фундаментальных даследаванняў, у другім туры — ужо больш за 280. Вынікі I тура гэтай праграмы па Беларусі: 32 групы вучоных атрымалі фінансаванне на агульную суму 396147 долараў. Выплаты па гэтай праграме таксама будуць праводзіцца ў выглядзе імянных чэкаў. Вынікі другога тура мяркуецца падвесці ў верасні-кастрычніку 1994 г.

У рамках работы МНФ ажыццяўляецца Праграма падтрымкі паездак на міжнародныя навуковыя канферэнцыі. Гэта праграма неконкурсная, у ёй могуць прымаць удзел вучоныя, што жывуць на тэрыторыі былога СССР і працуюць у галіне фундаментальных навук. Заяўкі па гэтай праграме прымаюцца Вашынгтонскім офісам МНФ ад аргкамітэтаў канферэнцый. Дапамога ўключае аплату авіябілетаў, сутачныя расходы і пражыванне ў атэлях. У мінулым годзе ў Беларусі гранты МНФ па гэтай праграме атрымалі 50 чалавек, прыкладна па 800 долараў кожны. Дабрачынная арганізацыя «Фонд Сораса — Беларусь» дадаткова ў 1993—94 г. аказала фінансавую падтрымку для паездак на Міжнародныя канферэнцыі 12 вучоным.

З канца 1993 г. пачала дзейнічаць Праграма дапамогі навуковым бібліятэкам. У рамках гэтай праграмы МНФ перадасць у дар па камплекту навуковых часопісаў для ЦНБ імя Я. Коласа і бібліятэкі БДУ на агульную суму больш за 100 000 долараў. Спіс часопісаў налічвае 102 найменні. Першая партыя замежных часопісаў перададзена ўжо ў бібліятэкі. Спіс часопісаў будзе ўдакладняцца і папаўняцца ў бягучым годзе.

Зараз у рэспубліцы актыўна распрацоўваецца Праграма па развіццю тэлекамунікацый для навуковых суполак былога СССР. Мяркуецца, што галоўным спонсарам гэтай праграмы ў рэспубліцы будзе таксама МНФ. Актуальнасць і вострая неабходнасць у такой праграме для Беларусі відавочныя.

*Бацькаўшчына*



## ГРУЗІЦЕ ІНТЭЛЕКТ БОЧКАМІ

Адзін трыльён амерыканскіх долараў — такі, па ацэнцы Лігі незалежных вучоных Расіі (кіруе ёю Вячаслаў Пацёмкін), кошт незапатрабаваных інтэлектуальных ідэй расійскіх вучоных і вынаходнікаў. Цэнтр «Ісціна» Міннавукі і Камітэта па вышэйшай школе прызваў асцярожна адносіцца да аб'яўленай лічбы, паколькі, па іх практычнай статыстыцы, са 100 заявак, якія паступілі на біржу інтэлектуальнага прадукта цэнтра, толькі адна здольна матэрыялізавацца ва ўжываемы прадукт. Тым не менш, Ліга заснавала Стратэгічны альянс незалежнай навукі. Мяркуецца, што яго заснавальнікі сумесна з зацікаўленымі камерцыйнымі структурамі пачнуць скупляць інтэлектуальны прадукт, не прыняты па розных прычынах у дзеючых навукова-вытворчых структурах. Праўда, пакуль застаецца адкрытым пытанне, ці стане альянс фінансаваць ідэі, якія патрабуюць тэарэтычнай і эксперыментальнай дапрацоўкі.

● *Рэцэнзія*

# ПЕРШЫ БЛІН КАМЯКОМ

(Заканчэнне. Пачатак у № 23)

Беларусы (памешчыкі, сяляне, гараджане і г.д.) сталі роўнымі сярод роўных. Па нацыянальнай адзнацы ўціску не было.

Каб кіраваць новымі падданымі, трэба было і на іх распаўсюдзіць існуючую сістэму ўлады. Былі ўтвораны Віцебская і Магілёўская губерні, аб'яднаныя потым у Беларускую губерню. Беларускую! Можна сказаць, упершыню ў гісторыі этнонім «Беларусь» атрымаў ад царызму пэўны дзяржаўны статус.

Важнейшая сфера — народная асвета. Царызм «прыняў» Беларусь практычна без беларускіх школ, беларускіх настаўнікаў, беларускіх падручнікаў, амаль з поўнасцю паланізаванай шляхтай. У гэтых умовах царскія ўлады таксама рабілі сваю будзённую справу. Спачатку была захавана сетка навучальных устаноў, якая давала магчымасць атрымаць адукацыю на польскай, рускай, яўрэйскай, французскай і нямецкай мовах. У 1803—1804 гг. на Беларусі было 200 школ, а ўжо на пачатку 1850-х гадоў — 576 навучальных устаноў, у тым ліку адна вышэйшая. У канцы 19 ст. на Беларусі было 1400 толькі пачатковых школ.

Гэтыя лічбы сведчаць, што царызм не стаяў у баку ад народнай асветы на Беларусі. У гэтым — станоўчая роля палітыкі Расіі ў адносінах да беларусаў: ім давалі адукацыю, а тым самым павышалі і духоўны ўзровень народа. Але ж змест навучання быў на рускай аснове і фармальна можна вінаваціць царызм у правядзенні русіфікацыі. Вядома, з пункту гледжання нацыянальных інтарэсаў Беларусі, царскі ўрад павінен быў адкрываць установы для падрыхтоўкі беларускіх настаўнікаў. Але хто мог вучыць іх першыя 50 гадоў пасля ўз'яднання Беларусі, з Расіяй? І далей. Хто мог напісаць беларускія падручнікі, калі яшчэ ў 1863 г. Кастусь Каліноўскі пісаў сваю «Мужыцкую праўду» лацінскім шрыфтам?

Абставіны рэзка змяніліся пасля польскага паўстання 1830—1831 г. і затым паўстання 1863—1864 г. Каб прадухіліць распаўсюджванне рэвалюцыйнай «заразы», царскі ўрад нанёс адчувальны ўдар па паланізацыі ў Беларусі. Акрамя чыста палітычных захадаў, у Беларусі былі забаронены польскія школы і друкаванне кніг лацінкай. Паколькі нават свядомыя беларусы даўно забылі кірыліцу, то апошняя забарона тлумачыцца некаторымі гісторыкамі як «русіфікацыя». Але ж такой мерай царызм не забараняў беларускага друку. Ён толькі «вырываў» яго з-пад польскага ўплыву, значыць, на карысць беларусаў.

Прыхільнікі ідэі русіфікацыі спасылаюцца на тое, што царскія ўлады праследавалі Дуніна-Марцінкевіча, павесілі Кастуся Каліноўскага, што з-за цэнзурных рагатак часопіс «Гоман» (выйшла два нумары ў 1884 г.) выдаваўся нелегальна, чыніліся перашкоды «Нашай ніве» і г. д. Усё гэта так. Але тут трэба мець на ўвазе не адзін, а два бакі праблемы: нацыянальна-культурна-асветніцкі і нацыянальна-вызваленча-рэвалюцыйны. Дуніна-Марцінкевіча арыштоўвалі не за тое, што ён пісаў па-беларуску, а за ўдзел у падрыхтоўцы пракламацый рэвалюцыйнага зместу. Кастуся Каліноўскага пакаралі не за тое, што ён пісаў «Мужыцкую праўду» на беларускай мове, а за спробу звяржэння ўлады, адрыву Беларусі ад Расіі. Не забараняла царская цэнзура культурна-асветніцкі накірунак публікацый на беларускай мове. Цэнзары «рэзалі» аўтараў перш за ўсё за выхад «у палітыку».

Другі бок у няпростай з'яве русіфікацыі сам па сабе таксама не аднамерны, а вельмі складаны. З аднаго боку, патрабаванні нацыянальна-дзяржаўнай аўтаноміі для Беларусі азначалі больш хуткае рашэнне праблем нацыянальна-культурнага адраджэння. У той жа час ідэя нацыянальна-дзяржаўнай самастойнасці абавязкова ўтрымлівала рэвалюцыйны змест, накіраваны супраць ідэалогіі «адзінай і непадзельнай» Расіі. Дарэчы, калі нашы сённяшнія «палешукі» на чале з Міколам Шаляговічам выступілі за культурную аўтаномію старажытнага «палескага» народа (у аснове — яцвягаў), то нашы «дэмакраты» абрушыліся на іх, як на здраднікаў. Праводжу гістарычныя паралелі, каб чытачу лепей было зразумець усю складанасць такой гістарычнай з'явы, як «русіфікацыя» Беларусі ў 19—пачатку 20 ст.

Гістарычны ўплыў рускіх, Расіі на беларусаў, Беларусь быў шматпланавы. І разглядаць яго толькі праз прызму «русіфікацыі» будзе гістарычнай памылкай.

Шкада, вельмі шкада, што ў першым томе «Энцыклапедыі» па сутнасці абыдзена вельмі важнае пытанне аб узаемных сувязях беларускага народа са сваімі суседзямі, аб уплыве беларускай культуры (у мінулым) на літоўскую, украінскую, польскую і рускую, уплыве гэтых культур на беларускую, іх узбагачэнні за савецкі час. Гэтыя здабыткі асвятляліся ў савецкай гістарыяграфіі. Цяпер яны аказаліся за бартом першага тома. Нічога, акрамя нацыянальнай абмежаванасці, такі «новы падыход» не дае.

Першы том «Энцыклапедыі» выклікае многа іншых заўваг. Так, у артыкуле «Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка» чытаем: «Па загаду партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва ў тыле нямецка-фашысцкіх войск былі пакінуты групы актывістаў партыі, якія сталі арганізатарамі падпольнай барацьбы». Цяпер, бачыце, усе павінны ведаць, што партыя карысталася толькі «загадамі», а не пастановамі. Чаму размова толькі пра падпольную барацьбу, а партызанскі рух — што, партыя не мела на ўвазе?

Далей: «Партызанская вайна з самага пачатку набыла надзвычай жорсткія формы. Атрады партызан нападалі на гітлераўскія гарнізоны, разбуралі склады з ваеннымі запасамі, падрывалі чыгуначнае палатно, масты, каралі смерцю старастаў і паліцэйскіх. Акупацыйныя ўлады ўзмацнялі рэпрэсіі» (с. 404). Па-першае, чаму «надзвычай» ды яшчэ і «жорсткія» формы? Партызанам, каб выратаваць сябе, сваіх дзяцей, свой народ і дзяржаву ад карычневай чумы, трэба было знішчаць яе носьбітаў, перашкаджаць ім прасоўвацца на Усход. Па-другое, аўтар гэтага артыкула, канд. гіст. навук Леанід Лойка, павярнуў справу так, што ў адказ на такія «надзвычай жорсткія формы» акупанты «ўзмацнялі рэпрэсіі». Сапраўды, сядзелі б падпольшчыкі і партызаны ціха, не было б тады з боку захопнікаў і іх хаўруснікаў ніякіх рэпрэсій.

І гэта пішацца, размнажаецца ў тысячах экземпляраў на ўвесь свет напярэдадні ўсенароднага свята — 50-годдзя з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў! Інакш як ганьбай для гістарычнай навукі гэта назваць нельга. Артыкул пра БССР у навуковых адносінах вельмі слабы. Няма ў ім праўдзівага апісання жыцця народа, няма ніводнага з'езда КПБ і з'езда (сесій) Саветаў, няма нават першага нашага касманаўта Пятра Клімука, які ярка сімвалізуе дасягненні БССР.

У першым томе нават не знайшлося месца для акадэміка Мікалая Акулава, лаўрэата прэміі Германскай АН, Ракфелераўскай прэміі, прэміі імя Ламаносава, з 1959 года працаваўшага ў АН Беларусі. Няма імёнаў акадэмікаў Яўгена Аляксеева, Якава Афанасьева, Герасіма Багамолава і іншых навукоўцаў. Гэтыя рускія вучоныя — гонар нашай гісторыі, нашай навукі, нашай культуры. Як можна было змяшчаць у томе персаналіі некаторых кандыдатаў навук і не змясціць акадэмікаў Героя Сацыялістычнай Працы Пятра Альсміка, Афанасія Ахрэма, Паўла Апанасевіча, Станіслава Астапчыка? Няўжо яны не маюць дачынення да гісторыі Беларусі? Героі Савецкага Саюза ў першым томе ёсць. І правільна. А чаму ж палічылі «лішнімі» Герояў Сацыялістычнай Працы?

Знаёмства з першым томам «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» паказвае, што ў ім многа іншых «недарэчнасцей», грубых памылак. Ён адлюстроўвае істотны недахоп у рабоце выдавецтва «Беларускай Энцыклапедыі» імя Пятруся Броўкі і «завал» у рабоце Інстытута гісторыі Акадэміі навук, на які ўскладзены абавязкі навуковага каардынатара распрацоўкі гістарычнай навукі ў рэспубліцы. Таму акадэмічны Інстытут гісторыі і яго дырэктар, член-карэспандэнт АНБ Міхаіл Касцюк, не могуць стаяць у баку ад усёй справы, выконваць толькі «сваю» частку працы. Яны павінны адчуваць навуковую адказнасць за ўсё гэта вельмі важнае выданне, лічыць яго сваёй першачарговай задачай. Толькі ў такім выпадку можна папярэдзіць у астатніх тамах істотныя недахопы, якіх нямала ў першым томе «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі».

Пётр ПЕТРЫКАЎ,
член-карэспандэнт АНБ.

АД РЭДАКЦЫІ. У першай частцы артыкула «Першы блін камяком» (№ 23), у апошнім сказе трэцяга абзаца трэба чытаць: «Адкажу, што без матэрыялістычна-дыялектычнай марксісцкай метадалогіі...» і далей па тэксту.




«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»

Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля Шымановіч

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 22.06.94 г.
Зак. 1035
Тыраж 1000 экз.

Індэкс 64123
Пры перадруку просьба спасылацца на «Навіны АНБ»
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.

Аўтары апублікаваных у газеце матэрыялаў нясуць адказнасць за іх дакладнасць і гарантуюць адсутнасць звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну.